*Мілагучнае, звонкае, сьпеўнае слова*



# ВЕРАС



gazeta@veras.f2s.com Выданьне Віцебскай суполкі моладзі «ВЕРАС» №7(7) жнівень 2000 г.

## Усебеларускі з'езд вачыма сведкі




29 ліпеня 2000 года ў горадзе Менску адбыўся Усебеларускі З'езд за Незалежнасць. Гэта акцыя праходзіла ў стаўшым ужо традыцыйным месцы збору апазіцыйных арганізацый — ДК «Сукно». На з'езд з'ехаліся прадстаўнікі працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый і нават вайсковых частак. З-за вялікай канцэнтрацыі людзей (1350 замест 800 чалавек) некаторым проста не хапіла месца ў залі. Праблемы з пошукамі месца затрымалі адкрыццё з'езда на 10-15 хвілін. Калі вядучы з'езда Генадзь Бураўкін звярнуўся да ўдзельнікаў, праца, нарэшце, распачалася.

Зачытваліся прывітанні з'езду ад розных палітыкаў і грамадзскіх дзеячаў Беларусі і замежжа. Так, прыкладам, прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел у сваім звароце да ўдзельнікаў з'езду выказаў надзею, што дадзеная акцыя будзе мець вялікае значэнне для Беларусі. Тыя, хто не знайшоў сабе месца ў залі, маґлі ўсё слухаць у фае, дзякуючы добрай гукаўзмацняльнай апаратуры, там жа стаялі сталы з рознай літаратурай, выданнямі, сімволікай, якія можна было набыць.

З'езд ахоўваўся сябрамі спартовапатрыятычных арганізацый. Асабліва выдзяляліся сябры Беларускай Партыі Свабоды: яны былі апранутыя ва ўсё чорнае і мелі значкі са сваёй сімволікай. Прысутнічала таксама і дружына БНФ. Ніякіх здарэнняў зафіксавана не было. Са структураў МУС у будынку знаходзіліся толькі пажарнікі, якія перыядычна аглядалі ўсе паверхі ДК «Сукно», і некалькі міліцыянтаў, якія сядзелі каля ўвахода. Кажуць яшчэ, што падчас правядзення з'езду адно з памяшканняў было адмыслова выдзелена для супрацоўнікаў КДБ, якія фіксавалі ўсе падзеі.

Асноўнай мэтай з'езду было прыняцце Акта Незалежнасці. Валянцін Голубеў кіраваў працэсам прыняцця гэтай рэзалюцыі і ўвядзеннем папраўак, якія, дарэчы, выклікалі шмат спрэчак. Неўзабаве гэты дакумент быў аднагалосна прыняты. Па рашэнні дэлегатаў, Акт Незалежнасці будзе накіраваны ва арганізацыі і шматлікія установы не толькі Беларусі, але і Еўропы. Было бачна: усіх людзей яднаў непакой за будучыню радзімы. Удзельнікі маглі бачыць тэкст рэзалюцыі ў святочных праграмах і галасаваць мандатамі, адзін бок якіх быў бел-чырвона-белым. Вёўся пратакол акцыі. Пасля перапынка-абеда пачалася другая частка з'езду, якая цягнулася да 20 гадзін вечара. Шматлікія прамоўцы заклікалі і прапаноўвалі, абураліся дзеяннямі ўладаў, разважалі і меркавалі...

Пасля прыняцця Акта людзей стала трошкі меней — пачалі разыходзіцца. Прадстаўнікі СМІ зніклі таксама. Але ж трэба адзначыць, што журналісты грунтоўна паказалі дзейнасць з'езду: былі



прадстаўлены практычна ўсе тэле- і радыёстанцыі, газеты і часопісы, якія працуюць на тэрыторыі Беларусі. Асаблівую ўвагу прыцягваў да сябе аператар ТВ6 Масква сваім аб'ёмам і вагой. Крыху апусцеў і прэзідыюм. Пасля перапынку не было праблемай знайсці вольнае месца ў залі.

Акцыя была добра арганізавана. Кожны мог наліць сабе мінеральнай вады «Дарыда», якая з-за спякоты карысталася попытам.

Пасля мерапрыемства ад 800 бутэлек засталося не больш за 5. Яшчэ да перапынку на мікрааўтобусе падвезлі клуначкі з ежай, якія выдаваліся кожнаму дэлегату. Абед быў няблагі: смажаная бульба з зеленню, курыная катлета-рулет, натуральны сок-нектар.

*Працяг на стар. 2*



Усё падавалася ў аднаразовых формачках, якімі потым былі забітыя ўсе навакольныя сметніцы. Людзям, якія прыехалі здалёк, аплочвалі кошт дарожных квіткоў.

Заля была ўпрыгожана нацыянальнай сімволікай, лозунгамі. Цікавасць выклікалі зялёны сцяг з белай паласой і выява вершніка на зялёным фоне, што красаваліся на адным з балконаў — напэўна, далегацыя беларускіх татараў, ды вялікі цэнтральны лозунг работнікаў тэкстыльнай прамысловасці «Мыслить и действовать по-новому, компетентно и энергично», які нагадваў транспаранты савецкіх часоў.

На зайздросць уладам з'езд адбыўся. Якія перашкоды не ствараў, а людзі, якіх хвалюе лёс краіны, зразумелі, падтрымалі і добра папрацавалі разам. Застаецца толькі спадзявацца, што вынікі акцыі будуць паспяховымі.

*Юрась Землякоў, «Верас»*
*Фота IREX/ProMedia*



# Нізка навінаў

У красавіку ТБМ (tbm@lingvo.minsk.by) даслаў зварот да паслоў шэрагу краінаў сьвету з просьбай зьвярнуць іх увагу на ігнараваньне беларускай мовы пры маркіроўцы імпартаваных тавараў. ТБМ прасіў давесьці гэтую інфармацыю да таваравытворцаў у сваіх краінах, якія займаюцца экспартам вырабаў у Рэспубліку Беларусь. Як выключэньне прыводзіліся тавары гішпанскай вытворчасьці, якія ўлічваюць моўную прыналежнасьць сваіх спажыўцоў у Беларусі. На гэты заклік ужо адгукнуўся Нямецкі Саюз прамыслова-гандлёвых палатаў.

* * *

Група моладзі зь віцебскіх НДА і палітычных партыяў наведала ў ліпені сяброўскі Віцебску горад ў Нямеччыне Нінбург. Беларусы правялі сустрэчы зь незалежным прафсаюзам, маладымі сацыялдэмакратамі, азнаёміліся з працай навучальнага цэнтру прафсаюзаў ў горадзе Цэльле. Нямецкія партнэры атрымалі інфармацыю пра дзейнасьць НДА, палітычных партыяў ды прафсаюзаў у Беларусі.

* * *

Сёлета многіх беларускіх школьнікаў чакае сюрпрыз: адгэтуль іх веды будуць ацэньвацца па 10-бальнай сыстэме. У гэтым навучальным годзе такі экспэрымэнт будзе праводзіцца толькі ў асобных школах, сярэдніх спэцыяльных навучальных установах ды ВНУ. Мяркуецца, што да 2002 году такая сыстэма ацэнкі ведаў зойме месца ва ўсіх навучальных установах рэспублікі. Акрамя таго, міністэрства адукацыі распрацоўвае іншыя падыходы да ацэнкі ведаў вучняў. Напрыклад, больш шырокае прымяненьне ў школах мае заняць тэставаньне — з мэтай набліжэньня школьнай адукацыі да патрабаваньняў, зь якімі сутыкаюцца былыя школьнікі пры паступленьні ў ВНУ.

* * *

Міністэрства замежных справаў Беларусі мае намер пашырыць сетку консульскіх установаў дзяржавы з мэтай лепшай абароны беларускіх грамадзянаў за мяжой. Ужо ў бліжэйшы час маюць адкрыцца два новыя консульствы ў ФРН — у Гамбургу і Мюнхене, бо дагэтуль усе беларускія грамадзяне мусілі зьвяртацца па свае патрэбы ў Бон. У Славакіі на базе беларускай амбасады таксама пачне дзейнічаць консульскі аддзел.

* * *

У Беларусі зьявіліся тры новыя мадэлі грамадзкага транспарту: камфартабэльныя аўтобусы выпускае МАЗ (нядаўна быў зроблены юбілейны 1000-ны аўтобус), а вытворчае аб»яднаньне «Белкамунмаш» выпусьціла экспэрымэнтальны трамвай, які адбывае выпрабаваньне на менскіх маршрутах, і распрацавала новую мадэль тралейбуса, які зьявіцца сёлета ўвосень. Мяркуецца, што гэтая мадэль будзе прадавацца таксама ў Расею і Прыбалтыку, бо аналягаў на абшарах былога СССР не выпускаецца. Натуральна, што гэтыя сродкі перасоўваньня абыхозяцца дзяржаве нашмат таньней, чым купляныя за мяжой, а іх якасьць хутка змогуць ацаніць пасажыры.

* * *

5 жніўня па ініцыятыве «Альфа радыё» ў Менску прайшоў першы фэст графіці «Твой горад». Упершыню беларускія аматары гэтага пакуль экзатычнага ў нас віду мастацтва атрымалі магчымасьць праявіць і прымяніць свае здольнасьці. Удзельнікі прыехалі з розных беларускіх гарадоў, а таксама з Польшчы. Задаволенымі засталіся ўсе, а радыё «Альфа» зараз можа любавацца на самы прыгожы ў горадзе плот.

* * *

На пачатку жніўня ў Крычаве прайшоў супэрконкурс тостаў пад абагульняючай назвай «Чарка і шкварка»! 13 крычаўцаў паспрабавалі свае сілы ў неардынарным спаборніцтве. Лепшыя сярод іх атрымалі прызы. Пераможцам стаў тост жыхаркі вуліцы Паркавай Ірыны Казловай. Прапануем яго вашай увазе: Хай згіне той, хто, страціўшы сумленьне, Шкадуе на гарэлку 3 рублі. Ґані яго, кідай у яго каменьне, І ў смажны дзень вадзіцы не налі! Уручаны прыз — шампанскае і цукеркі — напэўна, падштурхне пераможцу да чарговых посьпехаў у складаньні тостаў.

* * *

У адным з гарадоў Люксэмбургу дэманструецца фотавыстава, прысьвечаная беларускай правінцыі. Большая частка „мадэляў" — жыхары места Дзятлава. Менавіта там зьбіралі свае беларускія ўражаньні два люксэмбурскія фотамайстры — Іў Басі ды Рэнэ Гілен. Гэтая выстава мае павандраваць ня толькі па Люксэмбургу, але наведае і Бэльгію. Напэўна, беларускія першабытныя краявіды ды старазапаветны лад жыцьця зачаравалі насычаных эўрапейцаў.

* * *

Горкі рыхтуюцца да візыту А. Лукашэнкі 2 верасьня. Увесь горад перакапалі, пафарбавалі, прычасалі. Мясцовыя жыхары скардзяцца, што цяжка знайсьці цень — прайшла «другая бура». Школьнікі шчыруюць на пасадцы клюмбаў. Гарадзкі бюджэт перажывае нястачы, заробкаў працаўнікам бюджэтнай сфэры затрымліваюцца, затое за тэрміновую працу па добраўпарадкаваньні людзі атрымліваюць шалёныя па горацкіх мерках грошы — па 30 тысячаў.

28 ліпеня ў мястэчку Пагранічны Бераставіцкага раёну быў ажыццёўлены напад на сьвятара Беларускай Народнай Праваслаўнай Царквы імя сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Царква месьціцца ў вайсковым намёце, узьведзеным у агародзе адной з прыхажанак. Тры міліцыянэры (прозьвішча аднаго зь іх Віктар Абуховіч) ўварваліся ў царкву у час набажэнства і запатрабавалі, каб айцец Ян Спасюк накіраваўся зь імі ў суд. Чакаць канца набажэнства міліцыянэры не пажадалі ды напалі на сьвятара. Пры гэтым у бойку зь імі ўступілі вернікі. Уцякаючы ад міліцыянэраў, ацец Спасюк пасьпеў патэлефанаваць журналістам ды ў амбасаду ЗША. Але ж ад пераследу сьвятару прыйшлося ўцячы ў Горадню. Там міліцыянты ўсё ж насьцiглі сьвятара і забралі ў яго пашпарт, але журналісты газэты «Біржа інфармацыі» і іншых незалежных выданьняў абаранілі гнанага. У рэдакцыі газэты ён і атрымаў прытулак. Паводле словаў Яна Спасюка, ім ужо цікавяцца даўно, і ня толькі міліцыя. 10 ліпеня да яго наведваліся супрацоўнікі КГБ з Горадні, якія настойліва раілі яму не займацца справай адраджэньня Беларускай народнай праваслаўнай царквы, а перайсьці на службу ў любы прыход Расейскае праваслаўнае царквы. На адмову супрацоўнікі спэцслужбаў пачалі шантажаваць сп. Спасюка тым, што надрукуюць дасье, якое вядзецца на яго з 1986 году (хаця ніякае дасье ня зможа падарваць вялізны аўтарытэт Яна Спасюка). Рэальная пагроза існуе ня толькі самому сьвятару, але й ягонай сям»і — жонцы і тром дзеткам. 31 ліпеня сп. Спасюк усё-ж такі быў затрыманы. Суд, які адбыўся ў Бераставіцы на наступны дзень, цягнуўся ня больш за тры хвіліны. Айцец Спасюк арыштаваны на пяцёра сутак за непадпарадкаваньне міліцыі. Пачатак гэтай гісторыі трэба шукаць у мінулагадовых падзеях, калі Бераставіцкія ўлады адмовіліся рэгістраваць прыход Беларускай Народнай Праваслаўнай царквы ў Пагранічным, заявіўшы, што праваслаўная царква будзе толькі рускай.

* * *

Падчас сэлектарнай нарады ў Мастах менскія камэрсанты прывезьлі на продаж партрэты А.Лукашэнкі. Звычайныя партрэты, якія паўсюдна прадаюцца ў крамах, яны зьмясьцілі ў драўляныя рамкі, падфарбавалі, пакрылі лакам і надалі гэтаму твору цалкам салідны выгляд. Кошт аднаго такога партрэта склаў 11600 рублёў. Вымушанымі пакупнікамі сталі старшыні мясцовых калгасаў — адмовіць ніхто ня змог. Грошы пералічвалі па безнаяўнаму разліку. Дарэчы, адзін партрэт А.Лукашэнкі ў рамцы складае амаль месячны заробак мастоўскага калгасніка. Бізнэс ёсьць бізнэс...

* * *

Своеасаблівымі і надзвычай эфэктыўнымі мэтадамі вырашыў змагацца зь беспрацоўем Чэрыкаўскі райвыканкам. Спэцыяльным рашэньнем даведзена да дзесяці колькасьць дзён на «грамадзкай працы», якую адбываюць людзі, зарэгістраваныя на ўліку ў мясцовым цэнтры занятасьці. У іншых месцах Магілёўшчыны «паншчына» рэдка калі перавышае пяць дзён (за выключэннем Крычава — тут зрэдку даходзіць да 8 дзён). Колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных адразу ж скарацілася. Згодна статыстыцы, Чэрыкаўскі раён зьяўляецца лідарам па барацьбе з сацыяльным злом. Тут налічваецца ўсяго 224 афіцыйных беспрацоўных. Што датычыць рэальнага стану рэчаў, дык ён зусім не падобны на статыстыку: пачынаючы зь 90-х, Чэрыкаўшчына толькі афіцыйна згубіла больш за 1000 працоўных месцаў.

* * *

У Шклоўскім раёне бурна абмяркоўваецца магчымасьць правядзеньня там агульнанацыянальнага сьвята Дажынкі-2000. Аднак старшыня райвыканкаму Агееў у выступе па БТ заявіў, што будзе хлеб — будзе й сьвята. А пакуль жыхары Шклова акупавалі базары Віцебска, дзе яны прадаюць славутыя шклоўскія гуркі. Кошт на гуркі ў Віцебску удвая перавышае шклоўскія кошты (100— 120 руб. у Шллове і 230— 250 у Віцебску). Гэта зьвязана з тым, што па Віцебскай вобласьці прайшоў ураган, які нанёс гаспадаркам вялікую шкоду, паламаўшы там парнікі.

* * *

У Дзень Незалежнасьці часопіс ARCHE атрымаў «падарунак» ад Дзяржкамдруку — папярэджаньне часопісу за ягоны апошні нумар. Афіцыйная падстава — за зьмену назвы выданьня (гэта быў выпуск аналітычна-крытычнага агляду «ARCHE-Скарына») і за тое, што часопіс распаўсюджваецца таксама за межамі Беларусі. Галоўны рэдактар выданьня Валерка Булгакаў лічыць папярэджаньне неабгрунтаваным. Адначасова часопіс адчуў на сабе «мяккарэпрэсіўныя» меры і зь іншых бакоў: Беларускі Дом Друку спыніў ужо пачатае друкаваньне жнівеньскага нумару, а дзяржаўнае аб'яднаньне «Белкніга» адмовілася прадаваць папярэдні нумар часопіса. Выдаўцы часопіса зьвязваюць кампанію ціску з артыкуламі, зьмешчанымі ў нумары «ARCHE-Скарыны», у прыватнасьці, з рэзкім аналітычным матэрыялам В. Булгакава, прысьвечаным афіцыёзнай «Беларускай думцы». Папярэджаньне выдаўцы ARCHE зьбіраюцца абскардзіць у судзе, а друкаваньне — перанесьці ў адну зь менскіх прыватных друкарань.

* * *

З 4 па 14 жніўня ў Пружанах будзе працаваць летнік для першаклясьнікаў адзінай у горадзе беларускай клясы. У праграме летніку выступы беларускамоўных школьнікаў з падрыхтаванай імі праграмай (інсцэніраваная казка, канцэрт) перад навучэнцамі дзіцячых садкоў. Мяркуецца, што такія негвалтоўныя прапагандысцкія выступы дапамогуць шмат якім бацькам зрабіць выбар на карысьць беларускамоўнага навучаньня сваіх дзяцей. Акрамя гэтага, дзеткі зь летніку наведаюць з экскурсіяй адзін з гарадоў Беларусі. Чынны ўдзел у летніку ўзялі і настаўніцы, і бацькі школьнікаў.

* * *

Баранавіцкі раённы суд вырашыў спагнаць 13 тысячаў з гарвыканкаму на карысьць актывіста мясцовай філіі БНФ Алеся Пікулы. Падобнае рашэньне было вынесенае ў выніку разгляду іску, які быў пададзены сябрам арганізацыі ў адказ на забарону ўладнымі структурамі правядзеньня пікету на Дзень Незалежнасьці 27 ліпеня. Гарадзкія ўлады матывавалі забарону апазыцыйнай акцыі немэтазгоднасьцю правядзеньня ў гэты дзень падобнага кшталту імпрэзаў. Суд прызнаў падобныя тлумачэньні не адпавядаючымі дзейснаму заканадаўству, у прыватнасьці Закону аб правядзеньні мітынгаў, дэманстрацыяў і пікетаў.

* * *

6 жніўня Ян Спасюк, сьвятар Сьвята-Эфрасінеўскага прыходу Беларускай Праваслаўнай Народнай Царквы, адседзеўшы пяць сутак, быў выпушчаны на волю. У знак пратэсту ўвесь тэрмін свайго зьняволеньня сп. Спасюк трымаў галадоўку. Перад тым, як пасадзіць сьвятара ў камэру, міліцыянты загадалі яму зьняць крыжы. Сам сьвятар адмовіўся гэта рабіць, але і не наважыўся ніхто з супрацоўнікаў РАУСу - відаць, із сваёй прымхлівасьці. Пад пагрозай дубінак гэта вымушаны быў зрабіць сукамэрнік сьвятара. Міліцыянты ізноў шантажавалі Спасюка і запалохвалі праваацыямі супраць яго. Аднак пасьля вызваленьня сьвятар адразу ж вярнуўся да выкананьня сваіх абавязкаў. У суботу адбылося пераасьвячэньне апаганенага міліцыянтамі храму.

**BARC-ID List**

* * *

9 жніўня ў Беларусі зноў падаражэлі — у сярэднім на 15 працэнтаў — паслугі электрасувязі. Як паведамілі ў рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднанні «Белтэлекам», цяпер кошт адной хвіліны міжгародняй тэлефоннай размовы складае ў межах рэспублікі — 10,8 рубля, у межах вобласьці — 5,4 рубля. Для прадпрыемстваў і арганізацыяў гэтыя паказчыкі складаюць адпаведна 12,4 і 6,2 рубля. Пагадзінная аплата за паслугі гарадской тэлефоннай сувязі складае 1,98 рубля; для прадпрыемстваў і арганізацыяў — 3 рублі. Электронная картка для гарадскіх тэлефонаў-аўтаматаў наміналам 120 хвілінаў з 9 жніўня каштуе 935

рублёў. Устаноўка асноўнага тэлефоннага апарата будзе каштаваць гараджанам у 19 тысяч 710 рублёў, жыхарам сельскай мясцовасці — у 3 тысячы 970 рублёў. Павысіліся таксама тарыфы на паслугі радыёфікацыі і факсімільнай сувязі. Чарговае павышэнне тарыфаў у РДА «Белтэлекам» тлумачаць ростам эксплуатацыйных выдаткаў, а таксама неабходнасцю «забяспечыць бясстратнасць працы прадпрыемстваў электрычнай сувязі».

* * *

Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў (КРДС) распрацавала план сумесных дзеянняў на перыяд палітычнай кампаніі ўвосень 2000 года. Найважнейшым кірункам «гарачай восені-2000» абвяшчаецца збор подпісаў за правядзенне Усенароднага рэферэндуму ў падтрымку чатырох умоваў, пастаўленых міжнароднай супольнасцю перад беларускімі ўладамі на выбары. Гэтыя ўмовы вядомыя: прывядзенне да еўрапейскіх стандартаў выбарчага заканадаўства; гарантаваны доступ апазіцыі да дзяржаўных электронных СМІ; пашырэнне функцыяў парламента і стварэнне «перыяду міру» пад час выбараў. КРДС мае намер збіраць, а затым абагульніць усе парушэнні, дапушчаныя на выбарах у Мінску, абласных цэнтрах ды яшчэ ў 22 буйнейшых гарадах рэспублікі. КРДС аб'ядноўвае найбольш моцныя дэмакратычныя сілы Беларусі: АГП, Народную Грамаду, БСДП Станіслава Шушкевіча, БНФ Вінцука Вячоркі, партыю жанчын «Надзея», партыю працы, БКДП, Асамблею няўрадавых арганізацыяў, грамадзянскую ініцыятыву Хартыя'97, прэзідыум Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

* * *

У Санкт-Пецярбургу плануецца пабудаваць парламенцкі цэнтр Саюза Беларусі і Расіі. Пра гэта, як паведамляюць расійскія інфармацыйныя крыніцы, 8 жніўня на сумеснай прэс-канферэнцыі ў Смольным паведамілі губернатар Санкт-Пецярбурга Уладзімір Якаўлеў і дзяржаўны сакратар Саюза Беларусі і Расіі (СБР) Павел Барадзін. Плануецца, што на будаўніцтва цэнтра, які, як мяркуецца, размесціцца на Васільеўскім востраве, спатрэбіцца 2—3 гады. Прычым, паводле словаў Барадзіна, усе расходы можа ўзяць на сябе карпарацыя Cushman & Wakefield (ЗША). Амерыканцы наважаны ўкласці ў будаўніцтва парламенцкага цэнтра 2 мільярды долараў ЗША. У абмен яны хочуць атрымаць у арэнду будынкі, якія вызваляцца пасля пераезду ў Санкт-Пецярбург парламенцкіх установаў расійскай часткі СБР, і іншыя аб'екты нерухомасці ў Маскве і Санкт-Пецярбургу.

***«Наша Свабода»***



*Санкт-Пецярбург*

# Слоўнічак

Гэты артыкул сканчвае цыкл, прысьвечаны «Маленькаму маскоўска-беларускаму слоўнічку» Янкі Станкевіча. Сёньня вы пазнаёмецеся з беларускімі адпаведнікамі рускіх прыказак.

**Бог видит, кто кого обидит** — Бог не цяля, бачыць круцяля.

**Бог не выдаст, свинья не съест** — Калі бог не папусьціць, сьвіньня ня ўкусіць.

**Будет и на нашей улице праздник** — Загляне сонца і ў наша аконца.

**В тихом омуте черти водятся** — Ціхая сьвіньня глыбака рые.

**Век живи, век учись** — Будзем вучыцца, пакуль сьмерць лучыцца.

**Взялся за гуж — не говори, что не дюж** — Калі ўлез у дугу — не кажы «не магу».

**Видит око, да зуб неймёт** — Бачыць карова, што на павеці салома.

**Всюду хорошо, где нас нет** — На Падольлю пірагі на кольлю, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі.

**Все люди, как люди, один чёрт в колпаке** — Усі бабры дабры, адна выдра — ліха яе бяры.

**Всяк молодец на свой образец** — Усякі гад на свой лад.

**Два сапога — пара** — Абое — рабое.

**Десятая вода на киселе** — Стрэчнай бабкі родны Хведар.

**До свадьбы заживёт** — Пакуль жаніцца — загаіцца.

**Долг платежом красен** — Як баба да дзеда, так і дзед да бабы.

**Дуракам закон не пісан** — Дурны законаў не чытае, ды свае мае.

**Если б знал, где упал, то соломинки б подостлал** — Калі б веданьне, дзе павалісься, валей бы там сеў.

**Знай сверчок свой шесток** — Зай каток свой куток.

**Копейка рубль бережёт** — Рубель з граша паходзіць.

**Куй железо, пока горячо** — Тдзт, пакуль дзьверы адчынены, бо потым ня ўвыйдзеш.

**Лаптем щи хлебать** — Аборай хлеб кроіць.

**Лёгок на помине** — Цюк — дзяцюк!

**Лес рубят, щепки летят** — Дзе пьюць, там і льюць.

**Маменькин сынок** — Бабін дурань.

**Молодо — зелено** — Маладосьць — усё дурносьць.

**На безрыбье и рак рыба** — На бязьлюдзьдзі і дзяк чалавек.

**На Бога надейся, а сам не плошай** — Божа, памажы, а ты, дурню, падбяжы.

**На воре шапка горит** — Хто парасё украў, таму ў вушшу пішчыць.

**Нашла коса на камень** — Чорт на паганага напаў.

**Не всё коту масленица** — Не заўсяды, як на дзяды.

**Ни жив, ни мёртв** — Ні сьцяты, ні павешаны.

**Ни ответа, ни привета** — Ні адказу, ні прыказу.

**Первый блин комом** — Першы блін сабаку.

**Поспешишь — людей насмешишь** — Пасьпех — людзём на сьмех.

**Прошёл огонь, воду и медные трубы** — Быў на каню і пад канём.

**Пьяному море по колено** — Пьяному і козы ў золаце.

**Рыбак рыбака видит издалека** — Свой свайго пазнаў і на піва пазваў.

**Из огня да в полымя** — З агню ды ў прысак.

**Свой рубашка ближе к телу** — Кажна какошка пад сябе кошка.

**Семь раз отмерь, один отреж** — Дзесяць раз мер і то ня вер.

**Слышал звон, да не знает где он** — Гамоняць, гамоняць, ды ня ведаюць, дзе звоняць.

**Слово не воробей — выпустишь, не поймаешь** — Слова, як птушка — выляціць, то ня зловіш.

**Терпи, казак, атаманом будешь** — Цярпён — спасён.

**Тише едешь, дальше будешь** — Памалу едучы, далей будзеш.

**У страха глаза велики** — У страху вочы па яблыку.

**Утопающий за соломинку хватается** — Хто топіцца — за брытву хопіцца.

**Утро вечера мудренее** — Пераначуем — болей пачуем.

**Федот, да не тот** — Тая зязюля, але ня так кукуе.

**Чем богаты, тем и рады** — Што душа мае, тым і прыймае.

**Что посеешь, то и пожнёшь** — Кінь прад сабой, знойдзеш за сабой.

**Яблоко от яблони недалеко падает** — Які цялеш, такі клін, які бацька, так сын.

Гэта былі найбольш знакамітыя прыказкі з тых, што прадстаўленыя ў слоўніку Янкі Станкевіча. У самой жа кнізе вы знойдзеце іх значна болей. Па традыцыі нагадаю, што гэтую брашурку вы можаце набыць у сядзібе Таварыства беларускай мовы ў Менску на Румянцава, 13 ці ў рэдакцыі «Вераса».

У наступных нумарах мы, безумоўна, працягнем гутарку на моваznаўчыя тэмы.

Далучайцеся — дасылайце свае артыкулы, назіраньні, проста думкі: мы іх абавязкова надрукуем.

*Падрыхтаваў Яраслаў Манцэвіч, «Верас»*

# СМЕРЦЬ ФАШЫСТА



На Чыжоўскіх могілках Мінска хавалі лідэра беларускай філіі прафашысцкай арганізацыі «Русское национальное единство» Глеба Самойлава, забітага ў мінулую суботу. У пахаванні лідэра нацыстаў удзельнічала больш за 50 ягоных паплечнікаў з Мінска і Масквы.

Два дні запар жыхары мінскага мікраёна Уручча назіралі хлопцаў у чорнай уніформе са стылізаванаю свастыкай на рукавах — гэта расійскія нацысты сабраліся на пахаванне свайго лідэра Глеба Самойлава. Яны правялі недалёка ад дома, дзе жыў Самойлаў, сваю сходку, у часе якой пад нацысцкія воклічы пакляліся «адпомсціць ворагам».

Калі нацысты рыхтаваліся да пахавання, у двор дома, дзе жыў Самойлаў, прыехала міліцэйскае спецпадраздзяленне. У выніку было затрымана каля дваццаці фашыстаў. Праўда, ў пастарунку тыя прабылі нядоўга — прыкладна паўгадзіны. Пасля гэтак званай прафілактычнай гутаркі міліцыя адпусціла нацыстаў, папярэдне ўзяўшы з іх абяцанне не выкарыстоўваць у часе пахавання фашысцкую сімволіку. Гэтага абяцання нацысты не выканалі.

Як вядома, лідэр беларускай філіі РНЕ, 22-гадовы Глеб Самойлаў быў забіты трыма ўдарамі нажа ў сэрца ўраніцу 5 жніўня ў пад'ездзе ўласнага дома. Паводле словаў ягонай маці, нехта патэлефанаваў Глебу і выклікаў на сутрэчу. Праз нейкі час труп лідэра мясцовага РНЕ быў знойдзены суседзямі на лесвічнай пляцоўцы некалькімі паверхамі ніжэй кватэры Самойлава. Маці Самойлава таксама кажа, што напярэдадні забойства да іх у кватэру прыходзіў нейкі чалавек, які шукаў яе сына. Невядомы сказаў, што прыехаў па справах з Масквы.

Паводле факту наўмыснага забойства Глеба Самойлава пракуратура Першамайскага раёна Мінска ў той жа дзень завяла крымінальную справу. Супрацоўнікі Аддзела барацьбы з арганізаванай злачыннасцю даставілі на допыт да следчага каля 20 членаў РНЕ. Дапытаныя сцвярджаюць, што следства ў асноўным адпрацоўвала крымінальную версію забойства.

З гэтай версіяй не згодная маці забітага, якая сцвярджае, што яе сын быў сапраўдным патрыётам і стаў ахвяраю палітычнага забойства. У суботу ўвечары БТ паведаміла, што ў гэтай справе амаль выключаюцца крымінальныя разборкі, хаця Самойлаў некалькі гадоў таму і быў умоўна асуджаны за хуліганства.

Неўзабаве пракурор Мінска Мікалай Купрыянаў загадаў перадаць гэтую крымінальную справу ў гарадскую пракуратуру. Следчы Уладзімір Чумачэнка, які расследуе забойства Самойлава, матывы злачынства назваць адмовіўся: «Ідзе следства, вельмі сур'ёзна ідзе, задзейнічаныя вялікія сілы, працуем да знямогі, я не жартую. Ствараць курсы па падвышэнні кваліфікацыі забойстваў я не жадаю. Версіі — гэта асноўнае. Вось зараз я скажу, што шукаю Васю, Пецю Ліберзона і Дзіму Васільева — і што гэта будзе?»



Паводле некаторых звестак, нацысты з РНЕ абвінавачваюць у забойстве свайго правадыра сяброў беларускіх праварадыкальных груповак. Вось што думае адносна матываў забойства лідэр незарэгістраванай «Беларускай партыі Свабоды» Сяргей Высоцкі: «Наша версія: забойства Самойлава — гэта праблемы ў адносінах з маскоўскім кіраўніцтвам. Вядома, што да Самойлава былі прэтэнзіі за пэўны сепаратызм і за фінансавыя справы. Таксама не з'яўляецца сакрэтам, што маскоўскае кіраўніцтва недалюблівала Самойлава за быццам бы прысутнасць яўрэйскай крыві, а РНЕ вядомае сваім антысемітызмам. Таксама не выключаецца тое, што гэта справы крымінальных структур, бо апошнім часам РНЕ кантактавала з крыміналітэтам, увязвалася ў нейкія не зусім законныя справы, і можна дупусціць магчымасць таго, што менавіта фінансавыя разборкі з крымінальнымі структурамі паслужылі прычынаю забойства».

Дарэчы, нацысты з РНЕ ўжо не раз станавіліся ініцыятарамі розных крымінальных злачынстваў. Так, у лютым 1999 года яны напалі на прадстаўнікоў «Хартыі-97» спадароў Саннікава, Бандарэнку і Бябеніна, а сёлета суд Завадскога раёна Мінска асудзіў некалькіх нацы-стаў, якія па-садысцку збілі хлопца, што хацеў выйсці з шэрагаў РНЕ.

*Радыё «Свабода»,*
*Фота IREX/ProMedia*

# Беларуская мова: найбольш частыя памылкі пры ўжываньні

Як вядома, беларуская мова зараз перажывае ня лепшыя свае часы, хаця, безумоўна, ёсьць і станоўчыя моманты: усё больш моладзі пачынае цікавіцца нацыянальнай культурай, усё часьцей у паўсядзённым жыцьці можна пачуць беларускую гутарку. Аднак, існуе праблема «якасьці» мовы. Гледзячы Беларускае тэлебачаньне, слухаючы радыё альбо нават некаторых знакамітых грамадскіх дзеячаў, можна пачуць столькі памылак, што становіцца сумна. Гэты факт і падштурхнуў мяне напісаць дадзены артыкул, дзе паказаны найбольш частыя з гэтых памылак.

Шмат праблем і блытаніцы унесла ў жыцьцё г.зв. «наркамаўка» — зрусіфікаваная мова, якая была ўведзеная ў 1933 годзе замест клясычнае беларускай мовы — «тарашкевіцы», пра што мы ўжо пісалі ў чацьвёртым нумары бюлетэня. Найбольш прыкметнай зьменай тады была адмена ў правапісе частага ўжываньня мяккіх знакаў (прыкладам, словы «сьвіст», «карыстаньне», «сьвята» і пад. па правілах наркамаўкі пішуцца так: свіст, карыстанне, свята). І зараз шматлікія нашыя дыктары, палітыкі і нават некаторыя настаўнікі так жа і вымаўляюць, як напісана: не зьмякчаюць літары (*СВята*, замест *СЬвята* ці *СВіст* замест *СЬвіст*), што ня ёсьць правільным нават па правілах той самай наркамаўкі, афіцыйнай мовы. Нагадаю, што зьмякчаць гукі літар *С Ц З ДЗ Н* трэба перад усімі мяккімі зычнымі, акрамя *Г Х К*.

Па той жа прычыне маем яшчэ адну распаўсюджаную памылку. Памятаеце, колькі шмат словаў можна сустрэць у афіцыйнай беларускай мове, якія сканчваюцца на пісьме спалучэньнем літараў «-шся»? Прыкладаў незьлічоная колькасьць: ты усміхаешся, займаешся, цікавішся і да т.п. Сапраўды, практыка так пісаць узятая з рускай мовы і ўведзеная ў наркамаўцы. Але справа ў тым, што па правілах наркамаўкі гэткае спалучэньне прыканцы словаў (якое ўяўляе зь сябе частку канчатка (-ш) і постфікс (-ся)) чытаецца як «сься». Так, калі чытаць услых вышэйпрыведзеныя словы, дык варта вымаўляць «усьміхаесься», «займаесься», «цікавісься». Як бачым, на самой справе мяккія знакі нікуды ня зьніклі, іх выдалілі толькі зь пісьмовай мовы, а з вуснай — не. Навошта? Можна толькі здагадвацца.

Дарэчы, пра афіцыйныя правілы напісаньня. Паўсюль на шыльдах ды дарожных знаках можна сустрэць надпісы, дзе замест літараў *Ё* ці *Ў* пастаўленыя *Е* і *У*. Магчымасьць гэткай замены правіламі не прадугледжаная, ці бо забароненая. Гэта ў рускай мове мы скрозь бачым адсутнасьць літары *Ё*, замест якой друкуюць *Е*, вось некаторыя нашыя «грамацеі»-афарміцелі ды карэктары і пераносяць гэтае правіла на беларускую мову. Але ў нас такое немагчыма і выглядае як, скажам, замена ў рускай мове літары *Й* літарай *И*.

Нярэдка сустракаюцца і няправільныя націскі. Апошнім часам стала вельмі модна казаць «выпАдак», замест «вЫпадак». Цікава, адкуль гэта пайшло?.. А вось чаму людзі кажуць «грамадзянІн», замест «грамадзЯнін», зразумела: уздзеяньне рускай мовы.

«Рускі сьлед» яскрава прасочваецца таксама і ў прычынах узьнікненьня наступных некалькіх памылак: пры гутарцы скрозь чуваць выклічнікі «то есьць» ды «да». Гэта ёсьць вельмі грубай памылкай. У беларускай мове няма слова «да», з рускай яно перакладаецца як «так» або «але». Тое ж тычыцца й выразапаразіта «то есьць»: «то есть» перакладаецца як «гэта значыць» і ніяк інакш. Трэцяй «рускай» памылкай ёсьць ужываньне выраза «зьдзек НАД» (памятаеце, прыкладам, знакамітую рэкляму па БТ пра «зьдзек *над* прыродай»?). Пасьля слова «зьдзек» нельга ставіць «над», а толькі «з» (зьдзек з прыроды), г.зн. ужываецца толькі форма «зьдзеквацца *З* кагосьці/чагосьці».

Даволі цікавым таксама зьяўляецца момант са ступенямі параўнаньня. Мала хто з сярэднестатыстычных грамадзянаў ўсьведамляе, што, напрыклад, выраз «вышэйшы суд» можа ўжывацца толькі як ступень параўнаньня, скажам, «гэты суд вышэйшы за той», а вось рускі выраз «высший суд» перакладаецца на беларускую мову як «найвышэйшы суд».

Трапляецца, хоць і больш рэдка, блытаніца са словамі. Так, прыкладам, слова «дыван» зусім ня значыць тое, што па-руску завецца «диван». Тое, на чым сядзяць ці ляжаць, завецца канапай, а дыванам жа па-беларуску завецца рускі «ковёр». А вось са словам «блага» прасьцей: у нашай мове яно значыць тое, што і ў шмат якіх іншых славянскіх мовах, дакладней штосьці дрэннае, нядобрае. У рускай жа мове яно мае сэнс на 180 градусаў іншы.

Сёньня вы мелі магчымасьць пазнаёміцца з найбольш частымі памылкамі. Магчыма, праз некаторы час мы надрукуем новы артыкул на гэтую тэму, які будзе ўтрымліваць больш незвычайныя (але ня менш цікавыя) недарэчнасьці.

*Яраслаў Манцэвіч, «Верас»*

# Нізка навінаў

Ворша. Як вядома, абяцанага тры гады чакаюць. У жніўні жыхары Балбасава рыхтуюцца ўрачыста і радасна адзначыць слаўнае трохгодзьдзе з дня прыняцця гістарычнага сумеснага рашэньня Аршанскага райвыканкама і Мінскага адзьдзяленьня Беларускай чыгункі аб адкрыцьці ў іх пасёлку чыгуначнага прыпынку. На месцы запланаванага прыпынку адбудуцца народныя гуляньні зь песьнямі і званкамі па інстанцыях. Пасьля юбілею пачнецца адлік новага слаўнага трохгодзьдзя.

*«Вожык»*

Цікавае археалягічнае адкрыцьцё зрабілі школьнікі з райцэнтру Глыбокае, што на Віцебшчыне. Пад час зьбіраньня грыбоў, у некалькіх кілямэтрах ад гораду каля возера Крывое, яны натыкнуліся на незвычайную гару з добра бачнымі тэрасамі іваламі. Спэцыялісты мясцовага гістарычна-этнаграфічнага музэя, што прыехалі па просьбе школьнікаў на гэтае месца, зазначылі, што знойдзеная «гара» - старажытнае гарадзішча III V ст. нашай эры. Пры раскопках была знойдзеная вялікая колькасьць бітых чарапкоў, гліняная прасьніца, ачаг, якімі карысталіся 1500 гадоў назад плямёны балтаў, якія тут жылі. Раскопкі будуць працягвацца.

*Інфа-Контур*

Паводле інфармацыі, распаўсюджанай прадстаўнікамі БНФ Юрыем Хадыкам і Віктарам Івашкевічам на канфэрэнцыі на мінулым тыдні, застаецца пад пытаньнем правядзеньне сьвяткаваньня чарговага Дня беларускай вайсковай славы, які адзначаецца ў гадавіну Аршанскай бітвы 1514 году. У менскі выканкам была пададзеная заява на правядзеньне 8 верасьня гарадзкога сьвята з ускладаньнем кветак да помніку Перамогі, шэсьцем і канцэртам у парку Янкі Купалы. На мінулым тыдні арганізатары сьвяткаваньня наведалі гарвыканкам, каб паразмаўляць пра лёс мерапрыемства. Там яны, па ўласных словах, сталі сьведкамі чыноўніцкай неадукаванасьці, недасьведчанасьці ў сваіх паўнамоцтвах і няведаньні роднай гісторыі. У выніку Хадыка і Івашкевіч пакінулі гарвыканкам, так і ня вырашаўшы пытаньне з правядзеньнем сьвята.

*BARC-ID List*

# Радзівілаўскія скарбы

*Беларусь — краіна казак, легенд і таямніц, адна з якіх — радзівілаўскія скарбы...*

Вось ужо дзвесце гадоў ніхто з даследчыкаў не разгадаў таямніцу скарбаў Радзівілаў. Багацце гэтых знакамітых асобаў авеяна гісторыямі і інтрыгамі.

Радзівілы займалі асобнае месца ў развіцці ВКЛ, а потым і Рэчы Паспалітай. Іх лічылі некаранаванымі каралямі. Уладальнікі шматлікіх мястэчак і гарадоў, Радзівілы пастаянна займалі высокія дзяржаўныя і вайсковыя пасады, сабралі незлічонае багацце.



***Галоўны фасад палаца ў Нясвіжы. Канец XVI-XVIII стст.***

У цэнтральным корпусе замка ў Нясвіжы было 18 парадных заляў: Залатая, Паляўнічая, Гетманская, Рыцарская і многія іншыя. Гэтыя і астатнія памяшканні ў адной з сядзібаў Радзвілаў былі ўпрыгожаны карцінамі, скульптурамі, лепкай знакамітых мастакоў і мастроў. Міністр замежных спраў Расіі А. У. Чартарыскі так апісаў убачанае ў Нясвіжскім замку: «У 18 залях толькі ўпрыгожванняў сабралося на 5 ці 10 мільёнаў дукатаў, вялікая калекцыя кніг, зброі, брыльянтаў. Але няма нічога даражэй за калекцыю «12 апосталаў». Пяць з іх з чыстага золата і аздоблены каштоўнымі каменнямі. Каштуюць яны столькі, колькі імператар Напалеон выдаткаваў на Егіпецкі паход».

Радзівілаўскія апосталы былі самымі вядомымі экспанатамі ў скарбніцы замка. Яны ўяўляюць з сябе вучняў Хрыста, якіх мы можам бачыць на карціне Леанарда да Вінчы «Тайная вячэрня». Адкуль жа ў Радзівілаў такія шэдэўры з Заходняй Еўропы?

Існуе шмат версіяў наконт гэтага, але ж дзве з іх самыя верагодныя. Паводле першай, апосталаў прывез з падарожжа за мяжу Мікалай Сіротка. Як сведчыць другая версія, статуі — падарунак Сігізмунду Каролю, сыну М. Сіроткі за ўдзел у вайне мальтыйцаў супраць мусульманскіх піратаў у Міжземным моры. Радзівілы так ганарыліся апосталамі, што тыя сталі своеасаблівымі багамі-абярэгамі, якія прыносілі поспех і шчасце.

Слава пра шэдэўры праляцела па ўсіх землях так, што аднойчы апосталаў хацелі выкрасці. Вароў злавілі і пакаралі смерцю. Уладальнікі ж статуяў загадалі вырабіць копіі дванаццаці апосталаў з воску і пакрыць іх золатам, і іх выставілі ў Блакітнай залі.

Пасля 1812 года звесткі пра ўнікальныя статуі губляюцца. Хто ведае, можа адно са старых скляпенняў і зрабілася прыстанішчам для радзівілаўскіх скарбаў. Хто ведае?..

*Юрась Землякоў, «Верас»*



***Камін ў залі нясвіжскага палаца.***

*Гумарэска*

# Варашылаўскі стралок-2

*Удалая знаходка сюжэту забясьпечыла фільму выхад на шырокія экраны.*

Неверагодны рэзананс, параўнальны толькі што з посьпехам новага Бонду, атрымала экранізацыя вядомай аповесьці Аркадзія Гайдара «Варашылаўскі стралок». Падчас дэманстрацыі фільму па Маскве пракацілася хваля цяжкіх злачынстваў: 50 заказных забойстваў, 300 цялесных пашкоджаньняў і 148 явак з павіннай па артыкуле «Згвалтаваньне». Дайшло да таго, што маскоўскія улады забаранілі наведваць кінатэатры пэнсіянэрам пасьля 60 год.

Тым часам на студыі «НТВ-профіт» поўным ходам завяршаецца мантаж другой часткі нашумеўшага блокбастэру. Атрымаўшы ад пракату першай сэрыі даход, супастаўны з гадавым бюджэтам Саюзу Беларусі і Расеі, варацілы кінабізнэсу вырашылі працягнуць эпапею папулярнага героя-баевіка.

У новай частцы ўлюбёнец гледачоў дзед-тэрмінатар Міхалыч трапляе ў яшчэ больш ліха закручаную гісторыю. Ягоная блудлівая ўнучка, адчуўшы смак да гулянак з багацеямі, выходзіць замуж за каўкаскага міліянэра-гандляра хурмы. Той, як водзіцца, імітуе выкраданьне нявесты і гэтым выклікае на сваю задніцу вялікія праблемы. Стары снайпэр, які пасьля папярэдняга мачылава пайшоў у запой, раптам падымае галаву і, здаўшы бутэлькі, выпраўляецца ратаваць унучку на Паўночны Каўказ. Куды там ціхаму студэнту Шурыку з клясычнай эпапеі пра каўкаскую палоньніцу! Як запраўскі камандас, праходзіць Міхалыч праз вагонь і кулі, засыцілаючы свой шлях вахабіцкімі трупамі. У кульмінацыі стужкі дзед авалодвае сэксапільнай актрысай Хаматавай на даху грозьненскага нафтасховішча, адначасова вышыбаючы мазгі Салману Радуеву разрыўной куляй «дум-дум». Вэндэта галоўнага героя сканчваецца поўным разгромам чачэнскага анклаву пад Аргунам, а заплаканая ўнучка вяртаецца ў сваю хрушчобу да разьбітага карыта. І гэта яшчэ не фінал. Мусуюцца чуткі, што «Варашылаўскі стралок» ператворыцца ў круты сэрыял, дзе дзед Міхалыч на працягу 231 сэрыі будзе рэгулярна адстрэльваць палюбоўнікаў сваёй унучкі.

*Ігнат Галаванаў, «Навінкі»*

Ад сьпячкі прачнулася воля,
Ад гукаў бурлівай вясны.
І хвалямі сьпеўнага мора
Зайграла ў юнацкай душы.

Рака засьмяялася звонка,
Разьлілася ў шызых лугах,
І засьпявала ледзь чутна
Свабода на нашых палях.

* * *

Журботным позіркам гляджу
На лесу голыя галіны,
І ў сьнезе белым ручніку
Лунаюць шызыя даліны.

Аладкам сонечным гарыць
Над хатай месяц крутабокі.
А вёска ў марах сьветлых сьпіць,
Як белазорыя аблокі.

* * *

Сьвяточны месяц для каханьня,
Пара амурнага жыцьця...
На хвілі першага спатканьня
Душой імкнуся пылкай я.

Сяброўка, юная дзяўчына,
Узышла ў сьвет пякучы мой
І розум шчасьцем зацямніла,
Сваёю сьціплаю душой.

*Арцём Арашонак*

# Сабака-робат харчуецца цукрам

Кібернэтычны сабака Кру-Кру, які харчуецца кавалкамі цукру, пабудаваны ва ўнівэрсітэце ў Тампа на Фларыдзе. Паводле апошняга нумара брытанскага штотыднёвіка «New Scientist», гэта першы робат, якога называюць гастраробатам, і які атрымоўвае ўсю неабходную для функцыянаваньня энэргію з харчаваньня. У «страўніку» Кру-Кру знаходзіцца паліўны ланцуг, у якім пры дапамозе бактэрыяў Escherichia coli цукар раскладаецца на ваду ды вуглякіслы газ. (Аналягічным чынам энэргію атрымоўваюць жывыя арганізмы.) Пад час гэтага працэсу энэргія, закумуляваная ў хімічных сувязях у цукары, ператвараецца ў высокаэнэргетычныя сувязі. Электроны, якія вызваляюцца пад час гэтага працэсу, наладоўваюць мініятурны акамулятар. Пакуль што доўгі на тры метры Кру-Кру, які больш нагадвае цягнік, чым сабаку, рухаецца на дванаццаці колах і складаецца з трох «вагончыкаў». Яго трэба карміць уручную, бо канструктары пакуль што не спраэктавалі яму ні пысу, ні лапы. Аднак ужо плянуюцца робаты, якія будуць харчавацца самастойна. У якасьці харчаваньня для робата выбралі цукар, таму што пры яго раскладзе выдзяляецца мінімальная колькасьць адпадаў. У будучыні, відавочна, зьявяцца робаты, якія будуць харчавацца расьлінамі або нават мясам. Аднак навукоўцы не сьпяшаюцца зь мясам, таму што баяцца таго, што такі галодны робат можа вырашыць пашукаць сабе корм сярод людзей. Кру-Кру упершыню будзе паказаны публічнасьці на канферэнцыі, прысьвечанай робатам у жніўні на Гаваях.

*Польскае прэс-агенцтва, штодзённы інтэрнэт-дзёньнік. Пераклад Юрася Зянковіча.*

— Маэстру, — зьвяртаецца дама да мастака. — Ці вы можаце намаляваць мой партрэт аголеным?

— Натуральна! Зараз распрануся.

* * *

— Галіна, ты першая дзяўчына, якую я пакахаў..

— Ніколі мне ня шчасьціць! Заўсёды дэбютанты трапляюцца!

* * *

Падчас вайсковых практыкаваньняў сяржант пытаецца беларуса:

— Шэраговы Янкоўскі, ёсьць яшчэ ў вас гарэлка?

— Натуральна, братку!

— Як ты адказваеш афіцэру, нахабнік?! Паўтараю пытаньне: ці ё яшчэ гарэлка?

— Нікак нет, таварыш сяржант!

* * *

Стандартная сытуацыя — на скрыжаваньні сутыкаюцца мэрсэдэс і.. Белаз. З мэрсэдэсу ніхто не выходзіць.



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Лясны звярок, у гонар якога названы часопіс. 8. Сталовая прылада. 9. Краіна, дзе Казаранаў не менш, чым Дубовікаў на Беларусі. 10, «Ехаў дзедка на кірмаш, з ім на возе...». 18. Задумлівая птушка, кандыдат у суп. 13. Пасудзіна для пераноскі вады, але да пары. 17. Пісталет з барабанам. 18. Дзяўчына, абкрадзеная Кардам. 19. Прыстасаванне для ператварэння лысага ў кучаравага. 20. Што на лёдзе перамяшчаецца хутчэй за хакеіста? 83. Генсральскае гняздо. 25. Птушка — удзельнік дэмаграфічных працэсаў. 86. Юнак, які замінаў Алёне мыць ручнікі. 30. Апушчаны на дно спецыяліст. 31. Галаўны ўбор, здоьны самазагарацца на злодзеі. 33. Гучная п'янка з дзяўчатамі без комплексаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Хвастаты знак прыпынку. 3. Марская рыба з персанальнай электрастанцыяй. 3. Месца ля мора для дэманстрацыі сваіх, схаваных звычайна, якасцей. 4. Кавалак хлеба. 6. Мера аб'ёму, складзеная з далоні і пальцаў. 7. Краіна, дзе карова — асоба свяшчэнная. 11. Становішча, калі непрыяцеля абкладваюць, як ваўка. 14. Грукатлівы музычны інструмент. 15. Еўрапейская сталіца з палямі, якія ніколі не засяваюцца. 16. «Ласкавы» зварот да мужа-алкаголіка. 21. Суп суперніжкай якасці. 92. Месца для грэшнікаў і неплацельшчыкаў падаткаў. 24. «... на Парнасе». 27. Не арыгінал. 28. «Шэпчацца... з калінаю». 29. Газ, які ўдзельнічае ў стварэнні нябесных дзірак.

*Склаў Валянцін ЖВАЛЕЎСКІ, «Вожык»*

Бюлетэнь **"ВЕРАС"**
*Рэдактары:* Яраслаў Манцэвіч, Юрась Землякоў, Андрэй Парфёнаў
*Паштовыя адрэсы:* gazeta@veras.f2s.com; Віцебск, 210032, а/с 29-А
*Заснавальнік:* Віцебская суполка моладзі "Верас" (vsm@veras.f2s.com). *Падтрымка:* USIS
*Выдавец:* Віцебскі цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур". *Друк:* ВА Фонда імя Л. Сапегі
*Наклад* 299. На правах рукапісу. Дзеля ўнутранага карыстаньня. **Распаўсюджваецца бясплатна.**